Народная Воля
26 ЛЮТАГА 1997 г.

За кубкам кавы з Марынай КОКТЫШ

## Рыгор БАРАДУЛІН:

# “Паэзія будзе жыць, пакуль на свеце застанецца хоць адна жанчына”

*Прозвішча народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна ў спісах “дрэйфуючых” дзеячаў культуры, якія спадзяюцца ў сваёй дзейнасці на панскую ласку, не значыцца. А таму мая размова з ім пачалася з такога пытання:*



**— Рыгор Іванавіч, Вы, як мне здаецца, аказаліся па-за ўвагай улад. Можа, вы пачалі пісаць вершы “новым беларусам” ці заможным палітычным дзеячам пад заказ?**

— З падобнымі вершамі я, канешне, магу дапамагчы, але сумняваюся, што заказчыкі будуць задаволены.

Не так даўно адзін наіўны, але пры пасадзе чалавек папрасіў мяне пракаменціраваць БССРаўскі гімн. Маўляў, як можна адазвацца на радкі: “Мы, беларусы, з братняю Руссю, разам шукаем к шчасцю дарог”? Самы халуйскі гімн! У мяне заўсёды ўзнікала пытанне: а што, мы асобна не можам адшукваць свае шчаслівыя шляхі? Я таму чалавеку адказаў: “Ну, як я буду сыраваць даўно згніўшую анучу? Ёсць у нас, у Саюзе пісьменнікаў, людзі, якія гэтым прабаўляюцца. Так званыя кадры на падхваце. Звяртайцеся да іх. Не здолееце самі адшукаць — у прэзідэнцкай Адміністрацыі вам з задавальненнем параяць патрэбную асобу, якая палічыць за гонар выканаць любы заказ”.

Калі ў нашым грамадстве ўжо з’явіліся песні пра прэзідэнта, то тут застаецца толькі адно — у адчаі развесці рукамі і зрабіць выснову, што да раней існаваўшага паняцця “асоба каўказскай нацыянальнасці” цяпер дадалося яшчэ адно — “асоба нявызначанай нацыянальнасці”. Гэта я наконт Ханка, Яроменкі, Спрынчана і ім падобных.

**— Нявызначаная нацыянальнасць нараджае нявызначанае мастацтва. У тым ліку і літаратуру. На вашу думку, беларуская літаратура дажывае свае апошнія дні?**

— Калі мець на ўвазе беларускую савецкую літаратуру, то яна не памерла, а памірае. На жаль, памірае марудна. А нацыянальная беларуская літаратура жыве. І, упэўнены, будзе жыць. Па выпеставанай стагоддзямі традыцыі, ёй наканавана развівацца ў самых неспрыяльных умовах. Аб гэтым сведчыць прыклад апостала нашай літаратуры Васіля Быкава, які знаходзіць сябе і пры сённяшнім рэжыме.

Беларуская літаратура асуджана на выжыванне яшчэ і таму, што моладзь сёння арыентуецца ўсё ж такі не на савецкія каштоўнасці і каноны. І цяпер менавіта ад яе залежаць далейшыя шляхі развіцця беларускай нацыянальнай літаратуры. Маладыя не павінны памыліцца. Іх найбольш таленавітых прадстаўнікоў будуць чытаць. І заўтра, і паслязаўтра. І разумець многія рэчы. І вучыць гэтаму сваіх дзяцей. У любым выпадку, з сапраўднай сучаснай літаратурай не атрымаецца, як з адным нашым вядомым празаікам, тыраж поўнага збора твораў якога рэальна цягнуў 7—8 тысяч экземпляраў, а ЦК даў загад, каб наклад склаў не менш 35 тысяч. Потым, пасля бездакорнага выканання дадзенага ўказання, ва ўсіх кнігагандлёвых крамах прадаўцы пляваліся: “Забярыце назад гэтыя 6 тамоў! Яны ў нас мёртвым грузам ляжаць”.

**— Чаму ж тады і цяпер маўчыць наша крытыка, якая такім чынам прымае непасрэдны ўдзел у пасняховым пахаванні нашай літаратуры?**

— Згодзен. Атрымалася метамарфоза з часам. Сённяшнія крытыкі, што маюць так званыя савецкія лякалы, апрабіраваныя на творах Шамякіна, Савіцкага і іншых, прыкладаюць іх да сучасных. Свежае пакаленне крытыкаў у нас яшчэ толькі расце. І новая крытыка, трэба адзначыць, будзе даволі цікавай і зубастай. У якасці вернай прыкметы магу прывесці наступны прыклад: маладыя крытыкі часам замест таго, каб аналізаваць твор сучасны, пачынаюць кусаць за пяткі напісанае не адзін год назад. Але трэба мець смеласць, каб цягаць за хвост ільва, які спіць.

**— Па вашых назіраннях, становішча з нацыянальнай культурай у нашых суседзяў з краін СНД таксама выклікае слёзы?**

— Наколькі я ведаю, становішча там вельмі блізкае да нашага. Аднак, скажам, літоўская паэзія ва ўсе часы адрознівалася сваімі вялікімі тыражамі. Проста існавала неафіцыйная змова культурнай эліты: любая кніжка, што выходзіла на літоўскай мове, павінна была купляцца. Каб не ляжала макулатурай на кніжных паліцах. Альбо ў Сярэдняй Азіі і Казахстане — адзін з мясцовых часопісаў меў тыраж прыкладна 200 тысяч экземпляраў. Усё гэта падносілася як росквіт нацыянальнай палітыкі Савецкага Саюза. Хаця на самой справе ўсё было куды хітрэй: старшыня абкама тэлефанаваў старшыням калгасаў. Тыя закупалі прыкладна 100 тысяч экземпляраў кніг, і яны ляжалі нават не распакаваныя ў калгасных канторах. З распаўсюджваннем астатніх тысяч тыражу, як разумееце, асаблівых праблем таксама не існавала — абкаму падпарадкоўваліся яшчэ буйныя заводы, прадпрыемствы быту...

У нас застаўся стэрэатып савецкага літаратара. У Саюзе пісьменнікаў, калі шчыра казаць, адзін аднаго нават не ведаюць. Я толькі з трэцяй часткай Саюза асабіста знаёмы. Бо як толькі адкрываеш наш даведнік, адразу разумееш, што Саюз ператвараецца ў арганізацыю тыпу “Маладняка”, існаваўшага пасля семнаццатага года на рэвалюцыйна-рамантычна-нігілістычным уздыме.

**— Рыгор Іванавіч, сёння многія дзеячы культуры застаюцца на плыву ў асноўным дзякуючы таму, што дэманструюць сваю падкрэсленую лаяльнасць да цяперашняга рэвалюцыйна-прагматычна-аднаа сабовага ўздыму. А ў вас ніколі не ўзнікала думкі такім чынам прыстроіцца да агульнай чаргі за ільготамі, званнямі і ўзнагародамі?**

— Бог мілаваў. Я і ў партыі не знаходзіўся, і пісем у падтрымку ці ў абарону ўлады не падпісваў. Праўда, за ўсё жыццё адно пісьмо ўсё ж падпісаў. Гэта яшчэ пры Гарбачове было: у абарону беларускай мовы.

Існуючы рэжым не вечны. Ён рана ці позна скончыцца. І мне было б цікава паназіраць, як гэтыя падпісанты і падлізалы будуць глядзець у вочы сваім сучаснікам. Або проста на сябе ў люстэрка.

Жахліва было, калі нашыя праслаўленыя і заслужаныя дзеячы культуры падпісвалі пісьмо ў падтрымку прэзідэнта. Цырк дый годзе!

Гэты рэжым не ўратуюць ніякія пісьмы. І мне, калі б я падпісваў падобныя дакументы, потым, мабыць, і паміраць было б цяжка і сорамна.

**— Рыгор Іванавіч, можа, Вы саромеецеся ўдзельнічаць і ў сучаснай свецкай тусоўцы? Вас, увогуле, запрашаюць на ўсялякія ўрачыстасці, мерапрыемствы?**

— Мяне асабліва не клічуць, а калі і запрашаюць, то я стараюся адсядзецца дома. А не хажу таму, што не жадаю бачыць тых, каго сто год ні бачыць, ні чуць не хацеў бы!

**— Што Вы як член Саюза пісьменнікаў думаеце пра справу Славаміра Адамовіча?**

— Як чалавека і як паэта мне яго шкада. Гэта справа, канешне, складаная, аднак самае небяспечнае ў ёй — спроба рэанімаваць 1937 год. У ягоным вершы “Забі прэзідэнта” не прапанавана канкрэтна забіць Аляксандра Рыгоравіча. Адкрыйце любы даведнік — у нас прэзідэнтаў не пералічыць. Раней устойлівым выразам было “загінуў кожны чацвёрты”, а цяпер — “кожны трэці — прэзідэнт”.

**— Увогуле, цяжка сёння трымаць у сабе паэта?**

— Паэту-недачасніку, заўсёды цяжка.

**— Напэўна, вам дапамагае заставацца самім сабой перыядычны друк. Што Вы чытаеце рэгулярна?**

— “Свабоду”. Дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі нават у рукі не бяру.

**— А тэлебачанне?**

— Мяне трасе ад нашага прадажнага тэлебачання. Я не магу яго ўспрымаць. Гэта антыбеларускасць. А ад Зімоўскага ў мяне ціск падымаецца. Беларускія тэлевізіёншчыкі хлусяць і вераць у тое, пра што хлусяць. Чаму наш прэзідэнт такі магутны? Таму што ён хлусіць і верыць у гэта. А гэта перадаецца ўсім яго памагатым у “вертыкальнай” прапорцыі.

**— Не сакрэт: у канцы дваццатага стагоддзя паэзія саступіла са сваіх пазіцый. Вершы чытаюць усё радзей і радзей. Ці пяройдзе гэты, здаецца, незваротны працэс у XXI стагоддзе?**

— Складанае пытанне... Думаю, пакуль будзе жыць чалавецтва, пакуль на свеце застанецца хоць адна жанчына, будуць і вершы, будзе і паэзія. Іншая справа — у якой форме. Аднак і зараз многа вершаў, асабліва савецкіх, можна назваць электроннымі ці канвертыруемымі. Гэтыя ў наступнае стагоддзе не пяройдуць ні пад якой шыльдай.



**— Ці шмат вершаў Вы прысвяцілі жанчынам?**

— Стараўся дагадзіць усім знаёмым дзяўчынам. Толькі не афішаваў гэта.

**— Ведаю: Вашыя родныя маюць самае непасрэднае дачыненне да паэзіі...**

— Так. Геніяльным паэтам і філолагам была мая мама. Хоць фармальна яна была мала адукаваная. У мяне ўсе творчыя здольнасці ад маці. Нездарма ж беларускую мову называюць матчынай мовай. Жыва яшчэ мая цётка — Марыя Рыгораўна Трафімава. Унікальнейшы чалавек. Вельмі здорава разважае пра палітыку. Гаворыць, што Ленін, відаць, быў вялікі грэшнік, калі яго нават зямля не бярэ. Ну і ўнучка мая, Дамінічка, любіць рыфмаваць. Аднак, на жаль, філалагічныя ці нават паэтычныя здольнасці — гэта не тое, што патрабуецца ў наш век...

**— Рыгор Іванавіч, 70-я гады прынята называць часам фізікаў, 80-я — лірыкаў, да якой катэгорыі можна аднесці 90-я?**

— Харызматыкаў. Гэта, як у адной з маіх “Дурнот”: адзін усім стаўляе клізму, і гэта лічаць за харызму.

Ваше здоровье

*Пожалуй, более всего поговорок и пословиц народ сложил о здоровье. И это не случайно, ибо для каждого из нас самое важное в жизни — хорошее самочувствие и желание видеть здоровыми своих родных и близких. Идя навстречу многочисленным читательским пожеланиям, мы возобновляем раздел “Ваше здоровье”. Пишите нам, задавайте вопросы. “Народная воля” будет рада помочь вам.*

## Подумаешь, насморк?!

С кем такого не случалось: вышел из дома здоровым, а вернулся с... насморком. Из носа течет, дышать невозможно, голова раскалывается. Если в этот момент обратиться к врачу, он поставит диагноз — острый ринит. Но помилуйте, кто же с такими пустяками к врачам ходит! А зря. “Пустяковый” насморк запускает в организме длинную цепочку патологических изменений. Кроме того, всегда существует опасность, что воспалительный процесс распространится на придаточные пазухи носа. И тогда замучает синусит либо гайморит. К ним могут присоединиться еще и воспаления слуховой трубы и среднего уха.

Итак, ясно: острый ринит — дело нешуточное и требует лечения. Первое, за что обычно хватаются, — нафтизин, галазолин, санорин и другие капли. Но эти препараты заболевание как таковое не лечат, а лишь сужают сосуды носа, за счет чего уменьшаются выделения и на какое-то время восстанавливается носовое дыхание.

Борьбу с насморком следует, пожалуй, начинать с промывания носа. Приготовьте физиологический раствор: 1 чайную ложку соли на пол-литра воды. Промывать нос лучше всего 20-граммовым шприцем, надев на него полиэтиленовую тонкую трубочку. Трубочку введите в носовой ход неглубоко, наклонитесь над раковиной и нажимайте на поршень шприца. Промыв одну половину носа, введите трубочку в другую ноздрю.

После того как очистили нос от слизи, сделайте горячую ножную ванну. Ее можно заменить горчичниками на подошвы. После ножной ванны закапайте в нос капли. Только не злоупотребляйте каплями. Сосудосуживающие препараты желательно применять не чаще трех раз в день и не дольше 5—7 дней. А вот промывание и прогревание носа в острый период желательно делать через каждые 3—4 часа.

## Лопух против рака?

*Где-то слышала, что лопух — средство лечения злокачественных опухолей, дает хороший положительный эффект. Так ли это?*

*И.И. Соболевская, Брестская обл.*

Мы все привыкли к тому, что лопух — это сорняк. Однако его корни содержат очень большое количество полисахарида инулина (до 45%), стерины, горькие и дубильные вещества, витамин С, эфирное масло и другие соединения.

Отвар корней, которые собирают осенью, применяют как мочегонное, потогонное, противовоспалительное и “кровеочистительное” средство, усиливает он рост волос. Народная медицина рекомендует применять лопух при язве желудка, хронических гастритах, почечнокаменной болезни, подагре и ревматизме.

Научная медицина активно изучает это растение. В эксперименте на животных выяснилось, что одно из соединений, содержащихся в корне лопуха, действительно обладает противоопухолевой активностью. Но пока это только эксперимент.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

## Знаёмцеся: Міжрэчча і Любава

Картографам хутка прыйдзецца ўнесці змяненні на геаграфічнай карце рэспублікі. На Полаччыне, у Баравухскім сельсавеце, “вырас” пасёлак, якому далі назву Міжрэчча. А на тэрыторыі калгаса "Сялюты" з’явіўся новы пасёлак Любава. Пабудова населеных пунктаў на Віцебшчыне, на жаль, стала з’явай вельмі рэдкай. Часцей адбываецца адваротнае. Паводле слоў старшыні Віцебскага абласнога Савета Уладзіміра Кулакова, штогод у вобласці прыходзіцца “спісваць” па 40 -50 населеных пунктаў, якія засталіся без жыхароў.

**Вольга СІДАРОВІЧ, БЕЛТА.**

Спорт

■ *Хоккей*

## Лучше четыре, но сильных...

Завершился чемпионат страны по хоккею. Его итоги подводит исполнительный директор Федерации хоккея Беларуси Иван Ключенович.

— Поначалу в наш адрес метали стрелы. Дескать, четыре команды для таких соревнований недостаточно. Хоккею нужны площадки с искусственным льдом. Они есть в Минске, Новополоцке и Гродно. Естественно, там и базируются сильнейшие игроки. Они выступают параллельно в чемпионате Восточно-Европейской Лиги (ВЕХЛ) вместе с польской “Олимпией”, киевскими “Соколом” и “Льдинкой”, прибалтийскими “Энергией” и “Юниорсом”. На наш взгляд, лучше иметь четыре команды с возможностью сыграть в четыре круга, чем увеличивать искусственно турнир. Из-за погодных условий пришлось бы постоянно ломать календарь, а это не на пользу.

— Как же закончил квартет свой марафон?

— Отмечу, что второй и третий призеры определились только в последней игре, когда “Юность” отняла очко у “Тивали” (4:4). Впрочем, тивалят ничья устроила: они стали серебряными призерами.

Обратите внимание на таблицу. У гродненцев очков столько же, разница забитых и пропущенных шайб лучше, чем у минчан. Однако в личных встречах “Тивали” одержала три победы, и этот показатель отбросил “Неман” на ступеньку ниже.

**Таблица розыгрыша**

| | и | в | н | п | ш | о |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Полимир (Нп) | 12 | 9 | 2 | 1 | 68—21 | 20 |
| Тивали (Мн) | 12 | 4 | 4 | 4 | 25—30 | 12 |
| Неман (Гр) | 12 | 5 | 2 | 5 | 36—34 | 12 |
| Юность (Мн) | 12 | 0 | 4 | 8 | 25—69 | 3 |

Для любителей статистики. Лучшие бомбардиры чемпионата (все из “Полимира”): С.Пигулевский — 15 очков (5 заброшенных шайб + 10 результативных передач), В.Валуй — 13 (9+4), В.Каленицкий — 12 (4+8).

* * *

У Владимира Меленчука, главного тренера “Полимира”, настроение боевое.

Чемпионат ВЕХЛ, вопреки наветам руководства российского хоккея, вытолкнувшим команды ряда республик бывшего СССР из своих рядов, обрекшим их на “одиночество”, состоялся.

Было принято решение играть в североамериканском варианте. Двухкруговой турнир, затем — четвертьфиналы, полуфиналы и финал. Первый этап позади. В 1/4 попали все белорусские команды. Пары претендентов выглядят так: “Энергия” (Литва) — “Сокол” (Киев), “Льдинка” (Киев) — “Полимир”, “Юность” — “Неман”, “Юниорс” (Латвия) — “Тивали”. По результатам двух встреч определятся полуфиналисты. Для финалистов программа усложнена: пять игр до трех побед.

Судя по настроению Владимира Меленчука, в “Полимире” царит оптимистическое настроение. Дай-то Бог!

■ *Тяжелая атлетика*

## Что есть, того не отнять

Рассказывает постоянный читатель “Народной воли” арбитр международной категории по тяжелой атлетике Николай Виниченок:

— У человека с любым характером наступают моменты, когда приходится возвращаться к молодости, анализировать, за что-то себя корить... Чаще всего предаются ветераны воспоминаниям тогда, когда бывших асов приглашают поучаствовать в каких-то соревнованиях. Для них это настоящий праздник. Черт с ним — с результатом, с занятым местом. Встреча, общение с прежними соперниками, бокал шампанского за прощальным столом куда важнее.

Согласимся с этими мыслями известного арбитра и отметим внимание Министерства спорта и туризма, коллектива Дома физкультуры “Спартак” к IV чемпионату Беларуси по тяжелой атлетике. Кого здесь только не встретишь! Иван Логвинович, кандидат сельхознаук (!), воспитавший олимпийского чемпиона Леонида Тараненко; корифей подготовки атлетов Павел Зубрилин; многократный чемпион чемпионов Валерий Шарий; гордость российской и белорусской школы штанги Геннадий Рябоконь...

Всех не назовешь. Поэтому скажем лишь о некоторых победителях. Эдуард Дергачев, экс-рекордсмен мира; Виктор Ковалев, успевший стать чемпионом Европы среди ветеранов; Геннадий Симонов, Вацлав Юревич, Рудольф Ядрисинский...

Ветераны в строю. Значит, это им нужно. И молодежи тоже.

■ *Футбол*

## Есть кому проверять и есть — кого

Молодежная сборная Беларуси по футболу автобусом выехала в Чехию. Ее штаб усилился главным тренером национальной сборной Михаилом Вергеенко. Он будет просматривать будущих подопечных. А наша короткая беседа — с Иваном Савостиковым.

— В прошлом интервью “Народной воле” вы назвали состав команды, но сказали, что на примете еще около двадцати игроков. Каково отличие нынешнего состава от пребывавшего на предновогоднем сборе?

— В Чехию отправляемся без нескольких ребят. В частности, вратарей Дрозда (“Атака”) и Василевского (“Торпедо”, Минск). Вместо них едут Гаев из Мозырского МПКЦ и Юркевич из “Динамо-93”. Из полевых игроков нет Лисовского и Дорошкевича (оба из "Атаки"), Шушкевича и Рындюка (оба — БАТЭ, Борисов), Герасимовича (“Динамо-Юни”) и Гормаша (“Локомотив-96", Витебск). Их места займут Белоусов ("Динамо-Юни"), Скрипченко (“Динамо-93") и Поляков ("Локомотив-96").

— Турне непродолжительное?

— Действительно, только неделя. Но играем с хорошими командами, на естественных газонах. Сейчас это если не роскошь, то выход из положения.

## От чемпионов — к аутсайдерам

Эта новость наделала шума. Уволен с поста главный тренер чемпионов и обладателей Кубка Республики Беларусь Анатолий Юревич. А возглавил мозырский МПКЦ далеко не полешук, а москвич Александр Бубнов, бывший защитник московского “Динамо”. Помним такого игрока, но не слышали о таком тренере.

Что касается Юревича, то он принял приглашение минского “Торпедо” и возглавил автозаводскую команду.

Кто выиграл от этой рокировки, покажет время.

**Раздел ведет Александр МАЙСКИЙ.**

Крымінал

## Такім камяням месца ў музеях

Цэлая калекцыя каштоўных горных мінералаў, затрыманых нядаўна на КПП “Казловічы” як кантрабандны тавар, перададзена па рашэнню Брэсцкага гарадскога суда ў даход дзяржавы.

Як адзначыў у гутарцы з карэспандэнтам БЕЛТА прафесар Альберт Багдасараў, які ўжо чатыры дзесяткі гадоў займаецца мінералогіяй, такія камяні ён бачыў толькі ў некалькіх вядучых музеях былога Саюза. Гэтыя монакрышталі, якія адносяцца да групы скарнавых узораў, здабыты ў гарах Казахстана. Прычым большасць з іх можна назваць унікальнымі — па колеру, памерах, вазе. Напрыклад, ёсць у гэтай калекцыі 15-кілаграмовая друза прыроднага горнага хрусталю, вельмі прыгожы чорны марыен, дэндрытападобныя сцяжэнні самароднай медзі, якія надзвычайна рэдка сустракаюцца...

Нямала сярод канфіскаваных мінералаў і іншых вельмі прыгожых камянёў з мудрагелістымі і незнаёмымі для большасці з нас назвамі. Усе разам яны, на думку эксперта, з’яўляюцца выдатным музейна-экспазіцыйным і выставачным матэрыялам, з якога можна скамплектаваць калекцыі для абласных краязнаўчых, вучэбных вузаўскіх і рэспубліканскіх мінералагічных музеяў.

**Іван КУКСА.**

## Крадуць па дробязях, а расплачваюцца па-буйному

Самы буйны сталічны універсам “Цэнтральны” ледзь не штодзённа пакутуе ад нячыстых на руку пакупнікоў. У 1996 годзе служба бяспекі супермаркета сумесна з супрацоўнікамі УУС Цэнтральнага раёна па абвінавачанню ў крадзяжах прыцягнулі да крымінальнай адказнасці 168 чалавек, 67 з іх былі асуджаны. Як правіла, кошт украдзенага аказваўся да смешнага малы ў параўнанні з мерай пакарання.

**Уладзіслаў ПЛАТУН, БЕЛТА.**

# ТЕЛЕПРОГРАММА

## Среда, 26 февраля

### Белорусское телевидение

7.30 Утренний коктейль.
7.45 “Музыкальная обойма”. Белорусский хит-парад.
7.50 Экономикст.
8.00, 13.00, 15.00, 18.00, 0.05 Новости.
8.10 “Прикоснувшись к прошлому”, “Колесо”. Док.фильмы.
8.30 Бархатный сезон.
9.00 ТВ — школе. История Беларуси. 8-й класс. Белорусское национально-освободительное движение в период 1905 — 1907 гг.
9.30 Мультиклуб.
10.00 Компьютерный полигон.
10.25 “Иван Носович”. Док.фильм.
10.40 Гости в дом. Страны Севера холодного.
11.10 “Робокоп”. Телесериал(США).
12.00 Видимо-невидимо.
15.10 Мультфильм.
15.25 Видеокурс французского языка. Передача 5-я.
15.55 Концертный сезон. “Созвездие”. Фестиваль сурдоперевода песни.
16.30 ШАНС. Информационно-аналитическая программа.
17.00 Музыкальный антракт.
17.10 “Михаил Савицкий”. Док.фильм.
17.45 Экономикст.
18.20 “Робокоп”. Телесериал (США).
19.10 “Музыкальная обойма”. Белорусский хит-парад.
19.15 Тема дня.
19.30 “Не поможешь — не поедешь”. Масла “Нафтана”.
19.45 “Кто это?” Телеигра.
19.50 Авто-парк.
20.00 Баскетбол. Отборочный турнир чемпионата Европы. Мужчины. Беларусь — Израиль. 1-й тайм.
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.50 Баскетбол. Отборочный турнир чемпионата Европы. 2-й тайм.
22.35 К.Ламберт в худ.фильме "Почему я?" (США).
0.15 Королевская охота.

### ОРТ

11.00, 14.00, 17.00, 22.35 Новости.
11.15 Программа передач.
11.20 “Семнадцать мгновений весны”. 5-я серия.
12.25 “Полет на луну”. Мультфильм.
12.55 КВН-ассорти.
13.15 Авторская программа Г.Скороходова "В поисках утраченного". Фаина Раневская.
14.20 “Тайны старого Лондона”. Мультсериал.
14.45 Кактус и К.
14.55 До-ми-соль.
15.10 Зов джунглей.
15.40 “Нико и его друзья”. Молодежный сериал.
16.10 “...До шестнадцати и старше”.
16.35 “Вокруг света”.
17.15 “Девушка по имени Судьба”. Сериал.
18.05 Погода.
18.10 Час пик.
18.35 “Угадай мелодию”. Телеигра.
19.00 “Парижские тайны Эльдара Рязанова”. Пьер Ришар.
19.45 “Спокойной ночи, малыши!”.
20.00 Время.
20.40 Программа передач.
20.45 Все фильмы Гайдая. Андрей Мягков и Дмитрий Харатьян в комедии “На Дерибасовской хорошая погода, или На Брайтон-Бич идут дожди”.
22.45 Пресс-экспресс.
23.05 Программа передач.

### Канал “Россия”

7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести.
7.15, 8.20, 9.55, 0.20 Товары — почтой.
7.25 “Клубничка”. Телесериал.
7.55 “Дорогая редакция...”
8.30 Хамелеон.
9.05 “Санта-Барбара”. Худ.фильм.
13.25 “Собака на сене”. Худ.фильм. 2-я серия.
14.30 Телескоп.
15.10 Репортер.
15.25 Экспо-вестник.
15.30 Образ жизни.
16.15 Иванов, Петров, Сидоров и другие.
16.55 Там-там новости.
17.05 Лукоморье.
17.25 Посмотри на себя.
17.40 “Клубничка”. Телесериал.
18.10 Человек на Земле.
18.40 Особо важные персоны.
19.35 Хамелеон.
20.10 “Санта-Барбара”. Худ.фильм.
21.05 Погода на завтра.
21.10 “Добрый вечер”.
22.30 Тихий дом. Программа С.Шолохова.
23.10 Чемпионат мира по лыжным видам спорта. Двоеборье. Командные соревнования.
0.10 Только для взрослых.

### Санкт-Петербург

11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 21.55 Информ ТВ.
12.10 “История любви”. Сериал.
13.00 Срок ответа — сегодня.
13.30 Советы садоводам.
14.10 Личное дело.
14.35 Мультфильм.
14.45 “Макшейн”. Сериал (США).
15.35, 20.45 Телеслужба безопасности.
16.10 Еще одна Россия.
16.50 Король и шут. Музыкальное приложение к “Зебре”.
17.30 “Возвращение мастера”. Д.Баланчин. Телефильм.
18.30 Санкт-Петербург приглашает Олимпиаду-2004.
18.40 Большой фестиваль.
19.10 Спорт.
19.20 “История любви”. Сериал.
20.15 “Поживем — увидим”. Телесериал.
21.00 “Макшейн”. Сериал (США).
22.00 Событие.
22.20 Спортивное обозрение.
22.30 “Телекомпакт”. Музыкальное шоу.

### НТВ

5.00 Сегодня утром.
9.15 Утречко.
9.30 Женские истории. “Доктор Куин, женщина-врач”.
10.30, 17.30 Программа для детей. “Улица Сезам”.
11.00, 13.00, 15.00 Сегодня днем.
12.00 Открытый мир.
13.20 Большое “Времечко”.
15.35 Дистанция 60.
16.35 “Голубое дерево”. Худ.фильм.
18.00, 21.00 Сегодня вечером.
18.40 Герой дня.
19.05 Мир кино. Клод Брассер и Даниэль Отьей в фильме “Отель "Палас" (Франция).
20.45 Русский альбом. Группа “Парк Горького”. Часть 1-я.
21.40 Времечко.
22.00 Час сериала. “Скорая помощь” (США).
23.00 Сегодня в полночь.
23.20 Ночное “Времечко”.
24.00 Меломания: “Фрэнк Заппа. Юмор в музыке”.

### ТВ-6 Москва

6.00, 8.00, 13.50, 18.55, 20.00, 22.45 Шесть новостей.
6.10 Диск-канал.
6.40 Мультсериал “Возвращение Д’Артаньгава”. 11-я серия.
7.10, 23.00 Дорожный патруль.
7.20 Рецепты от “Цептер”.
7.25, 13.05 90 х 60 х 90.
7.45, 10.10 Аптека.
8.10 Частный случай.
8.30 Шоу Ивана Демидова “Обоз”.
9.20 Фантастический сериал “Вавилон-5”. 58-я серия.
10.20, 12.40, 0.20 Телемагазин “Спасибо за покупку!”
11.00 Кинотеатр ТВ-6. “В субботу вечером, в воскресенье утром”.
12.35 Знак качества.
13.20 Мультсериал. “Возвращение Д’Артаньгава”. 12-я серия.
18.00 “Ералаш”.
18.25 Юмористический сериал “Дэвис учит жить”. 29-я серия.
19.05 Ток-шоу “Я сама”: “Я не люблю своего ребенка”.
20.15 Фантастический сериал “Вавилон-5”. 59-я серия.
21.05 Те кто.
21.35 Детективный сериал “Держи вора!” 8-я серия.
22.30 Шоу Бенни Хилла.
23.10 Диск-канал.
0.00 Знак качества.

### 8-й канал

18.00 Для детей. Летающий дом.
18.30 Андрей Мягков, Михаил Ульянов в худ. фильме “Братья Карамазовы”, 1-я часть.
19.45 Христианская программа.
20.15 Мульт-планета.
20.25 Справочная служба-экспресс.
20.30 Сериал “Подводный воин”.
22.00 Полископ.
22.15 Николь Кидман в криминальной комедии “Умереть за...”

**Да ўвагі чытачоў**

*Наступны нумар “Народнай волі” выйдзе ў пятніцу, 28 лютага.*

*У чацвер, 27 лютага, — планавы нявыхад.*



Калектыў Беларускага выдавецкага таварыства “Хата” выказвае глыбокае спачуванне дырэктару БВТ “Хата” Санько Валерыю Аляксеевічу ў сувязі са смерцю ягонага бацькі — вызваляльніка сталіц пяці еўрапейскіх дзяржаваў і Маньчжурыі, інваліда другой групы Вялікай Айчыннай вайны СУЦЭНІ Мікалая Мікітавіча.





**Адрас рэдакцыі:**
220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: (017) 229-28-71.
Тэл./факс рэкламнага аддзела: 229-29-04.
**Індэкс 63222.**
Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ


Рэгістрацыйнае пасведчанне №246. Нумар газеты надрукаваны з дыяпазітываў у ЗАТ “Летувас рытас”. Адрас: г. Вільнюс, пр-т Гедыміна, 12а.
Фармат А-2. Тыраж: першы завод —61 000 экз. Заказ №